© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 219


## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### ДВАЦЦАЦЬ СЁМАЕ

*Ой, хіба маці божая*
*У лузе раннім,*
*Калі усё ў прыродзе*
*Бралася пад восень.*
*Як кужалем, імглою*
*Абвівала раны*
*Сыну свайму святому —*
*Ёзіку Хрыстосу.*
*А я у казкі, я у баснечкі*
*Не веру:*
*Адзін ёсць толькі бог —*
*Рэальнасці вымова.*
*Свет можна зважыць,*
*Падзяліць на часткі,*
*Змерыць;*
*Акрэсліць формулай*
*Дакладнай, навуковай.*
*Іду у глыб імглы,*
*Там недзе мая рэчка.*
*Траву зваліла з ног раса —*
*Усюды п'янасць.*
*А хто ж навукай*
*Маё сэрца скалечыў*
*І веру адабраў*
*У хараство падання?*

### ДВАЦЦАЦЬ ВОСЬМАЕ

*Не пераймайся тым, што апаздаў,*
*Бо ўсё яшчэ, усё паспееш —*
*Дагнаць,*
*Зрабіць,*
*Пазычыць*
*І аддаць,*
*Спазніцца ды і паспяшыцца.*
*Паспееш сказаць праўду і салгаць,*
*І пакахаць і зненавідзець.*
*І чымсьці больш спяшаешся*
*ў жыцці,*
*Дык тым хутчэй дагоніш смерць.*

### ДВАЦЦАЦЬ ДЗЕВЯТАЕ

*Вярба, як зялёная споведзь,*
*Аб грэшных учынках шаптала.*
*Я грэх разумею спаўслова,*
*Бо ў ім прыгажосці кавалак.*
*Туман, нібы сонны архангел,*
*Разлёгся ў атаве надрэчнай,*
*Таполі — высокія рангі*
*Улезлі па пояс у млечнасць.*
*Тут кожны — малы і вялікі,*
*Спеў луга застыў у знямозе.*
*Без норм, і без форм, і без лікаў,*
*Айчына — салодкім гіпнозам.*

### ТРЫЦЦАТАЕ

*Банальная — непаўторная,*
*Гераічная — труслівая,*
*Шчырая — фальшывая,*
*Крыклівая — нямая,*
*Добрая — злая,*
*Журботная — вясёлая,*
*Мімалётная — вечная*
*Пані твая і мая —*
*СЛЯЗА.*

### ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШАЕ

*На свеце многа ёсць*
*Шчаслівых і багатых,*
*Хай рэкі іх ліюцца мёдам.*
*Каб толькі ў стане*
*Быў сказаць табе:*
*— Мая ты!*
*І каб пачуў адказ твой:*
*— Назаўсёды.*
*Няхай жыве на свеце*
*Вечны, вечны жнівень,*
*Бо ён цябе прывёў пад дрэва.*
*Прыйшла ты да мяне —*
*Ільняная шчаслівасць.*
*З спакусным яблыкам,*
*Як Ева.*

*І не знайшоў ніяк я*
*Выходнай дарогі,*
*Пайшоў у райскую дуброву,*
*Мільгалі побач, як бярозы,*
*Твае ногі*
*І клікаў грэх салодкім словам.*
*І так пайшло, пайшло*
*Жыццё маё на страту;*
*Пазбыўся добравольна я свабоды.*
*Шапчу, шапчу, шапчу я:*
*— Мая ты!..*
*Хаця не чую:*
*— Назаўсёды.*

### ТРЫЦЦАЦЬ ДРУГОЕ

*Той, хто ботамі*
*Ў душу залазіў.*
*Пасля збудаваў капліцу,*
*І на двух алтарах паставіў*
*Свае хадакі цяжкія.*
*І мала хто з пілігрымаў,*
*Слухаўшы звон- падковак,*
*Ведаў, што гэта не песня*
*Альтруістычных анёлаў,*
*А рэха растоптаных душ.*

### ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЦЯЕ

*Я да рос не дарос;*
*Я малы, я пануры.*
*Яны дзеці імглы і дажджу,*
*Дзеці буры.*
*У іх сон, у іх звон,*
*І царкоўны малебен.*

**Алесь Барскі**

* ✲ *

Сэрца,
Ты плакала
І ты смяялася.
Ты жыло
Вялікаю надзеяй
І часам
Марай-кропляй
Цвіло ты,
Як першы майскі бэз.
І ты купалася
У восеньскіх дажджах.
Трывога, радасць, боль,
Вялікі смутак —
Усё расло ў табе.
Цяпер
Ты мёртвае.
Дык чаму,
Чаму
Я чую непакой?

**Надзея Артымовіч**

* ✲ *

Хто не верыць ні ў што
— той памёр ў небыцці.
Трава верыць ў расу
— ёй расці ды расці,
кветка верыць ў пчалу
— ёй нектар выдаваць,
рака верыць ў ваду
— берагі ёй ламаць.
А у што ж верыш ты?
Хто не верыць ні ў што
— той памёр ў небыцці.

**Міхась Шаховіч**

### ДЗЕНЬ

Хтосьці выкінуў дзень,
Мо згубіў незнарок.
Сёння ходзіць, як цень,
Лічыць кожны свой крок.

Што там дзень — жарт благі,
Успаміну шкада.
Як жа ён дарагі,
Як жывая вада.

Бо не ведаў цаны
І не думаў тады,
Што без гэтага дня
Засыхаюць гады.

Б'ецца ў горы сваім
Са сваім пачуццём.
Бо цяпер за яго
Ён аддаў бы жыццё.

**Л. Танкевіч**

### ПАРАДОКС

Дзіўны свет
Дзіўныя твае слёзы
і плач
Дзіўны твой сон
недаконченый
Дзіўна непатрэбнае
тваё
ёсць
парадокс замыкае
глухое кола

**Ірэна Баравік**

* ✲ *

Тады скажы
— ты маё жыццё
зорка
па захадзе сонца
я твая думка
жыў для цябе
шукаў
цені
тваіх слядоў
блудзіў
церні
убітыя ў сэрцы
у дарозе да цябе
я табою
жыццём
у белае віно
садоў
уздыму тваё сэрца
да сну укалыша
салавей
у майскай журбоце
— вітаеш развітаннем
абуджаны
бароніш сну
ты не шукаў
не сумаваў...

**Вераніка Леанюк**

* ✲ *

*Ніколі*
*яшчэ ты не сказала,*
*Што мо крыўдуеш на мяне...*
*Чаму змаўчала*
*не адно?*
*Ты будзь адкрытай хоць бы мне.*
*Не ідэал я —*
*знай аб гэтым,*
*Не эгаіст —*
*таксама знай.*
*Я проста, знаеш,*
*Чалавек шчаслівы,*
*Якому ў вуснах*
*Песня ты.*

**Юрка Харкевіч**

## ВАДА З КАПЕЛЮША

*Дай мне сваю сцежку,*
*пакажы паляну,*
*што вырасціла кветкі*
*на вянок твой*
*дзявочы.*
*Дай пацалунак,*
*Я насіць яго буду,*
*як кроплю расы,*
*як малін жмені поўныя.*

*Ластаўка наша зіму прынесла,*
*надзею далоням.*
*Ты мацней прытуліся,*
*інакш, не як заўсёды.*
*Пацалуй мяне, як*
*ваду у капелюшы.*

*Яшчэ адно і яшчэ адно*
*чорнае пер'е голуба*
*у тваіх пальцах.*
*Вар'ятам назло,*
*на пяшчот пажаданне*
*яшчэ адно і яшчэ...*

*І увайшла радасць*
*у вачэй неба,*
*паліла дажджом жоўтым*
*людзей сухіх і кволых.*
*І людзі спявалі,*
*па лужах брадзілі...*
*І ніхто не ведаў,*
*што гэта —*
*дождж*
*ці вада з капелюша.*

**Юрка Панасюк**

* ✲ *

нашы дарогі
разышліся
даўно ўжо
і больш
ніколі
не сустрэнуцца
яны
ты пайшоў
за голасам
мамусі
я пайшла
за голасам
сумлення
а шчасце
нашае
то
эфемерная
хвілінка
мы не умелі
яго браць
мы не умелі
у руках
яго трымаць
а нітка
нашага кахання
была толькі павуціннем
чапляецца цяпер
да іншых
закаханых

**Агнія**

## ХАЦЕЛАСЯ ІМ МНОГАЕ СКАЗАЦЬ

Калі я толькі ехаў да бацькоў,
Што дажывалі век старэчы ў Моры,
Заўсёды думаў: вось цяпер ізноў
Удоваль мы з сабою пагаворым.

Аднак калі пераступаў парог,
Калі пазбыўся ўжо дарожнай стомы,
Я быў шчаслівы, што мне лёс збярог
Маіх бацькоў, што я тут з імі, дома.

Я разглядаў маршчыністы іх твар,
Іх сівізну, старэчае дыханне.
Пачуццяў поўны, поўны цёплых мар,
Я быў шчаслівы, седзячы ў маўчанні.

Мне часта сніцца поле, сенажаць,
Старэнькія бацькі ў вясковай хаце.
Хацелася б ім многае сказаць,
На жаль, няма на свеце бацькі, маці.

**Віктар Швед**

* ✲ *

*Быў дзень шчаслівы*
*але я*
*не ўмела жыць*
*у шчасці агромным*
*сэрца маё*
*быццам хтосьці*
*парэзаў нажом*
*а ў галаве*
*настала поўнач*
*і не магла*
*ужо я адвярнуцца*
*каб потым жыць*
*цяперашнім днём.*

**Хрысціна Саўко**

* ✲ *

шукаю слядоў
слядамі бягу
сляды праслаўляю

досвіткам чужыя
сляды цалую
слядамі пешчуся

змяшчаю ідэал
слядоў на вясёлцы
слядамі жыву

**Ваву**

## Што то йе

* ✲ *

*Што то йе совэсць?*

*Стіхія,*

*якую*

*маемо*

*у собі.*

*Розламана —*

*будэ грызты нэ раз.*

*Нэ раз*

*запэчэцця в сэрці*

*солёною слёзою.*

*... бо то*

*нэпокаляна чыстота*

*душі чоловека.*

**Іван Кірызюк**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

